


Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

26 лютага 2021 года №9 (1348)

18+

# Адказваем на простыя пытанні пра бюджэт

Часам мы чуем, што ў Беларусі бясплатныя медыцына і адукацыя. Але бюджэтныя сферы ў асноўным фінансуем мы з вамі сваімі падаткамі. Падрабязней — у артыкуле.

старонка 3

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Да вас прыйшлі зператрусам. Што раіць праваабаронца

старонка 8

Педагог тлумачыць, чаму важна чытаць дашкольнікам беларускія народныя казкі

старонка 21

Маладзечанца, які 9 жніўня хадзіў па плошчы з музычнай калонкай, асудзілі на два гады «хіміі»

старонка 18

Мы знайшлі ўраджэнку Вілейкі, якую шукалі сваякі з Вялікабрытаніі

старонка 7

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Маладзечанскі завод металаканструкцый распрадае будынкі

**На сайце Цэнтра прамысловай ацэнкі з'явіліся аб'явы аб продажы нерухомасці буйнога ў Беларусі і СНД вытворцы металаканструкцый – ААТ «Маладзечанскі завод металаканструкцый».**

Агульная плошча нерухомасці – больш за 13 тысяч квадратных метраў, а зямельны ўчастак – 55 гектараў.

На сайце Цэнтра прамысловай ацэнкі былі размешчаныя тры лоты.

Першы – будынак лабараторна-бытавога корпуса, у яго адміністрацыйна-гаспадарчае прызначэнне. Агульная плошча нерухомасці – 8139,7 м². У лота ёсць абцяжаранне: часковая арэнда (3150,53 м²). Пачатковая цана аб'екта – **2 188 780 рублёў**.

Другі – будынак інжынернага корпуса. Прызначэнне: спецыялізаванае для навукова-даследчых, праектных, канструктарскіх арганізацый, інфармацыйных цэнтраў, грамадскіх арганізацый і дзяржаўных архіваў. Агульная плошча аб'екта – 5769,4 м². Абцяжаранні і абмежаванні: іпатэка (залогатрымальнік – «Беларусбанк»). Пачатковая цана аб'екта **2 489 256 рублёў**.

Трэці – аўтазаправачная станцыя. Плошча – 36,8 м². Цана **129 600 рублёў**.

МЗМК уведзены ў строй 29 снежня 1968 года, з'яўляецца самастойным вытворча-гаспадарчым комплексам Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі.

**У сярэдзіне 2018 года МЗМК прызналі неплацежаздольным. Цяпер завод знаходзіцца ў працэдуры «Санацыя».**

### Што вырабляе МЗМК

У асноўны асартымент прадукцыі завода ўваходзяць будаўнічыя металаканструкцыі аднапавярховых і шматпавярховых прамысловых і грамадзянскіх будынкаў, вежы сотавай і радыёрэлейнай сувязі, збудаванні рознага прызначэння з мабільных блок-модуляў.

МЗМК удзельнічаў у будаўніцтве Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску, лядовых палацаў у Бабруйску і Баранавічах. Маладзечанскі завод працаваў на аб'ектах у Беларусі і Расіі.

**Настасся УТКІНА.**



Фота cpo.by

Будынак завода.

# Дайджэст: Два гады калоніі – журналістам. Вільня – без «Казюкоў»

## Пра асноўныя падзеі тыдня ў Беларусі і свеце – у нашым аглядзе

**Прапануем вашай увазе інфармацыю пра падзеі, якія адбываліся ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень.**

### Кірмаш «Казюкі» пройдзе анлайн. Ён адмяняўся толькі ў Другую сусветную

Віленскі кірмаш «Казюкі», што праходзіў 4 сакавіка і збіраў сотні тысяч наведнікаў, сёлета перанесены ў інтэрнэт. Рамеснікам і стваральнікам нехарчовых прадуктаў прапануюць адкрыць сваю інтэрнэт-краму на віртуальным кірмашы. Па словах віцэ-мэра **Эдзіты Тамашунайце**, пры любым змякчэнні каранцінных абмежаванняў у красавіку-маі бяспечна арганізаваць свята з удзелам сотняў тысяч чалавек практычна немагчыма. Вытокі кірмашу «Казюкі» (у гонар святога Казіміра – апекуна Літвы) узыходзяць да 17 стагоддзя, і лічыцца, што гэта шматвяковае штогадовае мерапрыемства не праводзілася толькі падчас Другой сусветнай вайны.

### Закінутыя дамы будуць прадаваць па 29 рублёў. Але не ўсюды

Праект указа аб адчужэнні жылых дамоў і ўдасканаленні работы з пустуючымі і трухлявымі дамамі ўжо «ўзгоднены з усімі зацікаўленымі». Пра гэта распавёў старшыня Дзяржаўнага камітэта па маёмасці **Дзмітры Матусевіч**. Ён дадаў, што мясцовым уладам будуць дадзеныя пэўныя паўнамоцтвы і спрошчаны парадак. «Напрыклад, у некаторых населеных пунктах будзе дазволена прадаваць такі аб'ект адразу за адну базавую велічыню».

### ЖКГ: Беларусы не аплацілі болей за 400 тысяч жыровак

На 1 студзеня беларусы не аплацілі больш за 400 тысяч квітанцый на аплату камунальных паслуг, сказаў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Андрэй Хмель.**

У краіне 4 мільёны 200 тысяч асабовых рахункаў. У кастрычніку-снежні 2020 года колькасць рахункаў, якія мелі пратэрмінаваныя квітанцыі, даходзіла да 470-490 тысяч, але затым лічба зменшылася.

Міністр адзначыў, што з тых 400 тысяч неаплачаных асабовых рахункаў 70% маюць запазычанасць не большую за тры месяцы. «Дзесьці чалавек да 25 чысла забыўся аплаціць, закруціўся. Дзесьці памылкова не даплаціў 1-2 рублі – ён ужо трапляе ў гэты спіс», – адзначыў міністр.

### «Лісты шчасця» будуць прыходзіць за праезд на чырвоны і адсутнасць страхоўкі

Ад 1 сакавіка ўступае ў сілу абноўлены Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях. Згодна з нававядзеннямі, так званыя лісты шчасця будуць прыходзіць не толькі за перавышэнне хуткасці і няправільную паркоўку, але і за праезд на чырвоны сігнал святлафора, рух па паласе для грамадскага транспарту, адсутнасць тэхагляду або страхоўкі.

### Журналісткі «Белсата» атрымалі па два гады калоніі

18 лютага суд прыгаварыў журналістак **Кацярыну Андрэеву** і **Дар'ю Чульцову** да двух гадоў калоніі агульнага рэжыму за прамы рэпартаж з акцыі ў Мінску, якую яны асвятлялі 15 лістапада. Столькі ж і прасіла дзяржабвінавачанне. Суд прыняў іх версію ў поўным аб'ёме. Журналісткі абвінавачаныя ў закліках да масавых беспарадкаў. Справу суд разгледзеў за тры пасяджэнні, якія прайшлі на працягу дзесяці дзён.

### Суд над Кацярынай Барысевіч і Арцёмам Сарокіным зрабілі закрытым

Доктара Арцёма Сарокіна і журналістку Tut.by Кацярыну Барысевіч затрымалі 19 лістапада. На думку Генпракуратуры, яны выдалі медыцынскую таямніцу аб стане загінулага **Рамана Бандарэнкі**, што пацягнула цяжкія наступствы, а менавіта «павышэнне напружанасці ў грамадстве і стварэнне атмасферы недаверу да кампетэнтных дзяржаўных органаў». 19 лютага іх справу разглядае суд Маскоўскага раёна Мінска. Арцёму і Кацярыне пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Працэс аб'явілі закрытым.

**Паводле tut.by, tvr.by, minsknews.by, delfi.lt.**

# 850 рублёў

з разліку на кожнага жыхара Беларусі неабходна сплаціць у 2021 годзе за дзяржаўны доўг – частку асноўнага доўгу і працэнты.

Інфаграфіка «РГ».

Інфармацыя паводле Міністэрства фінансаў Беларусі.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**7 983,79** мільёна рублёў

столькі плануецца накіроўваць у 2021 годзе на пагашэнне і абслугоўванне дзяржаўнага доўгу

**Паводле Мінфін.**

# Чаму бюджэтнікам неабходны малы бізнес. Адказваем на простыя пытанні пра бюджэт

**Пра тое, колькі мы аддаём грошай дзяржаве і на што ідуць нашы падаткі, мы папрасілі расказаць аналітыка праекта «Кошт урада» Жанну Кулакову.**

**1. Калі я атрымліваю на рукі 600 рублёў заробку, то колькі з таго, што я зарабіў, ідзе дзяржаве?**

Перад тым, як зарплату выдаюць на рукі, з яе робяць абавязковыя ўтрыманні – 13% падаходнага падатку і 1% унёску ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. З заробку, які выдаюць на рукі, і гэтых адлічэнняў фарміруецца налічаная зарплата. Працадаўца дадаткова пералічвае ў ФСАН 34% ад налічанай зарплаты.

Калі хтосьці атрымаў 600 рублёў на рукі – значыць, у бюджэт і ФСАН ён ужо ўнёс 335 рублёў.

Пасля чалавек будзе траціць грошы і зноў плаціць падаткі. Напрыклад, падатак на дададзеную вартасць, які ўключаюць у цану большасці тавараў і паслуг па стаўцы 20% акцызы. Яны хаваюцца ў цане алкаголю, тытуню і аўтамабільнага паліва. А таксама выплачваюць падаткі на маёмасць, на дамашніх жывёл і іншыя. Гэтыя траты індывідуальныя, залежаць ад таго, што менавіта набывае чалавек.

**2. Калі ў нас бясплатная медыцына і адукацыя, то адкуль на іх бяруцца грошы?**

З бюджэту, а 85% бюджэту папаўняецца з нашых падаткаў. Гэтыя сферы ў асноўным фінансуем мы сваімі падаткамі. Атрымліваецца, што насамрэч гэта не бясплатныя паслугі – мы плацім за іх дзяржаве немалыя грошы.

**3. Часам падчас пратэстаў актывісты кажуць міліцыянерам: «Вы жывяце за нашы падаткі, мы ж вам плацім». Тыя адказваюць: «А мы таксама падаткі плацім, так што вы нам нічога не плаціце». Хто тут памыляецца?**

Міліцыянеры, безумоўна, таксама плацяць падаткі, але на падаткі ідзе толькі частка іх заробку, а не ўвесь. Тое, што застаецца ў міліцыянера на руках пасля выплаты падаткаў – гэта грошы іншых падаткаплацельшчыкаў. Так што калі хтосьці кажа любому бюджэтніку «мы плацім вам зарплату», то ён мае рацыю.

**4. У Вялікабрытаніі кожны брытанец ведае, колькі з яго бяруць за год на ўтрыманне каралевы. Ці можа беларус даведацца, якую суму ён аддае за год на ўтрыманне кіраўніка дзяржавы ці вертыкалі ўлады?**

На жаль, дакладную суму падлічыць немагчыма, дэталізацыя бюджэтных дадзеных не дазваляе гэта зрабіць.

Напрыклад, вядома, што ў 2021 годзе на дзяржаўныя органы, якія забяспечваюць дзейнасць прэзідэнта, з рэспубліканскага бюджэту плануюць накіраваць 34 мільёны рублёў, а агулам на дзяржаўныя органы агульнага прызначэння – 827 мільёнаў рублёў.

Гэта не ўсе грошы, ёсць яшчэ фінансаванне мясцовых органаў улады, грошы на якія ідуць з мясцовага бюджэту. Гэтыя лічбы вельмі агульныя і не даюць адказу на пытанне.

**5. Беларусь мае вялікі дзяржаўны доўг. За якія сродкі яго будуць вяртаць? Што будзе, калі не вярнуць? І ці трэба вяртаць, калі ўлада зменіцца?**

Дзяржаўны доўг Беларусі на 1 студзеня складае 57,8 мільярда рублёў. З бюджэту бяруць грошы на выплату працэнтаў па дзяржаўным доўгу. Напрыклад, сёлета на гэтыя мэты спатрэбіцца 3,1 мільярда рублёў. Гэта грошы падаткаплацельшчыкаў.

Пры гэтым пагашаюць асноўны доўг пераважна за кошт новых займаў або золатавалютных рэзерваў. У 2021 годзе на гэта спатрэбіцца яшчэ 4,9 мільярда рублёў. Атрымліваецца, што агулам за працэнты і асноўны доўг беларусы павінны сплаціць 8 мільярдаў рублёў. Гэта прыкладна па 850 рублёў з разліку на кожнага жыхара краіны.

Калі доўг не вяртаць, здарыцца дэфолт. Абрынуцца крэдытныя рэйтынгі, пазычаць Беларусі ніхто не захоча, сапсуюцца адносіны з міжнароднымі партнёрамі. Працэс можа дайсці да міжнароднай ізаляцыі. А інвестары, якія ўкладалі грошы ў беларускія аблігацыі, згубяць свае ўнёскі.

Усе гэтыя даўгі давядзецца вяртаць, якая б улада ні была, лычыць Жанна Кулакова.

**6. Як паўплывае на бюджэт, напрыклад, Маладзечанскага раёна, калі прадпрымальнікі і дробны бізнес раптам з'едуць за мяжу і перастануць плаціць падаткі?**

Прыкладна палова кансалідаванага бюджэту Маладзечанскага раёна фарміруецца за кошт падаходнага падатку, яшчэ каля 40–45% складаюць іншыя – падаткі на дададзеную вартасць, уласнасць і іншыя. Такім чынам, непадатковых крыніц фінансавання ў бюджэту практычна няма.

Масавы ад'езд малога бізнесу і скарачэнне падатковых паступленняў прывядуць, у першую чаргу, да скарачэння фінансавання адукацыі і аховы здароўя. Менавіта на гэтыя два кірункі выдаткоўваюць 70–75% кансалідаванага бюджэту Маладзечанскага раёна.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.02 | 25.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5902 | **2.6036** |
| Еўра | 3.1277 | **3.1684** |
| Злоты, 10 | 6.9449 | **7.0108** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.5148 | **3.5310** |
| Грыўня, 100 | 9.2873 | **9.3135** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **17.02** | **24.02** |
| Еўра | 3.0900/3.2000 | **3.1000/3.2200** |
| Долар ЗША | 2.5600/2.6300 | **2.5700/2.6400** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 17.02 | 24.02 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **20,71** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,76 | **7,40** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **5,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | **6,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,80 | **18,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,90 | **3,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 6,40 | **4,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,50 | **7,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,65** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,79** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Авакада, 1 кг | 25,00 | **–** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,70 | **4,20** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **6,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **4,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,90 | **4,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **4,30** |
| Хурма, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Муж пагражаў жонцы забойствам

**ВІЛЕЙКА**

6 лютага ў міліцыю Вілейкі патэлефанавала жыхарка вёскі Ерхі Крывасельскага сельсавета. Яна паведаміла, што муж скандаліў і пагражаў забіць яе.

Міліцыянерам, якія прыехалі па выкліку, жанчына расказала, што яе 49-гадовы муж быў нецвярозы.

Каля паловы шостай вечара стаў сварыцца, а пасля схапіў яе за горла, пачаў душыць і пагражаць забойствам. Жанчына спалохалася за сваё жыццё.

16 лютага ў адносінах да мужчыны завялі крымінальную справу па артыкуле 186 Крымінальнага кодэкса – пагроза забойствам, расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На месцы пажару ў Каменным Логу знайшлі два трупы

**АШМЯНЫ**

Па дадзеных следства, уначы 18 лютага паступіла паведамленне пра ўзгаранне дома ў Каменным Логу. Пры ліквідацыі пажару знайшлі целы двух чалавек.

Паводле папярэдняй інфармацыі, загінулыя – жыхары дома. Гэта 37-гадовая жанчына і 44-гадовы мужчына. Устанавілі, што брат і сястра жылі ўдвух.

Следча-аператыўная група агледзела месца здарэння з прыцягненнем спецыялістаў УГКСЭ па Гродзенскай вобласці. Для ўстанаўлення дакладнай прычыны ўзгарання, асоб загінулых і прычыны іх смерці прызначылі судова-медыцынскія, генетычныя і пажарна-тэхнічная экспертызы.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Скраў алкагольны напой і выпіў

**МАЛАДЗЕЧНА**

17 лютага, бліжэй да апаўночы, у міліцыю звярнуліся работнікі аднаго з маладзечанскіх супермаркетаў, што на вуліцы Касманаўтаў. Яны націснулі кнопку трывожнай сігналізацыі. На месца інцыдэнту прыбылі супрацоўнікі аддзела Дэпартамента аховы і РАУС.

Міліцыянеры высветлілі, што ў краму ўвайшоў невядомы мужчына і паспрабаваў прабрацца да прылаўка з алкаголем за спінай касіра. Работніцу насцярожылі неадэкватныя паводзіны наведніка. Яна зрабіла заўвагу. Пасля чаго мужчына пайшоў далей па гандлёвай зале і, прыхапіўшы са стэлажа літровую бутэльку слабаалкагольнага напою, хутка накіраваўся да выхаду міма касы. Неаплачаны тавар ён трымаў у руках. Адна з работніц крамы кінулася следам і, дагнаўшы зламысніка ля самых дзвярэй, паспрабавала спыніць. Аднак мужчыну ўдалося ўцячы. Іншы прадавец націснула трывожную кнопку. Супрацьпраўныя дзеянні фігуранта зафіксавала камера відэаназірання.

Вывучыўшы відэазапісы, міліцыянеры прайшлі па меркаваным шляху зламысніка. Праз гадзіну ў адным з бліжэйшых двароў па прыкметах падазраванага затрымалі супрацоўнікі Дэпартамента аховы і патрульна-паставой службы міліцыі. Ім аказаўся 31-гадовы жыхар Маладзечна. Мужчыну даставілі для разбору ў РАУС. Экспертыза паказала, што фігурант быў нецвярозы. Як патлумачыў сам затрыманы, выкрадзены напой ён выпіў, а бутэльку выкінуў. Дзеянням падазраванага следчыя далі прававую ацэнку. Пачалі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 206 КК Рэспублікі Беларусь «рабаванне». Мужчыну пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Запрашаюць на следча-экспертны факультэт Акадэміі МУС

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці запрашае юнакоў для паступлення на следча-экспертны факультэт Акадэміі МУС Беларусі.

Запрашаюць юнакоў, якім на момант паступлення ад 17 да 25 гадоў і якія маюць або атрымліваюць агульную сярэднюю, прафесійна-тэхнічную або сярэднюю спецыяльную адукацыю і па стане здароўя годныя да вайсковай службы.

Абітурыенты залічваюцца на дзённую форму па выніках ЦТ (беларуская альбо руская мова, грамадазнаўства, замежная мова). Тэрмін навучання – чатыры гады. На факультэце вучаць па спецыяльнасці «правазнаўства» з прысваеннем кваліфікацыі «юрыст» і спецыяльнага звання «лейтэнант юстыцыі». Па заканчэнні выпускнікоў накіроўваюць для далейшага праходжання службы ў падраздзяленні Следчага камітэта.

**Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта.**



Маладзечанца судзілі за напад на двух міліцыянераў у жніўні.

# Атрымаў 13 год за замах на жыццё міліцыянера

**Мінскі абласны суд вынес рашэнне па справе 61-гадовага маладзечанца, які абвінавачваецца ў замаху на забойства міліцыянера і гвалце ў дачыненні да супрацоўніка РАУС з мэтай перашкодзіць яго законнай дзейнасці.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

Інцыдэнт адбыўся летась 30 жніўня пасля 16 гадзін на вуліцы Грамадоўскай у Маладзечне. Міліцыянеры вярталіся з выкліку ў райаддзел і звярнулі ўвагу на мужчыну, які паказваў непрыстойныя жэсты. Па знешніх прыкметах ён быў у стане моцнага алкагольнага ап'янення. Калі праваахоўнікі спыніліся для разбору, агрэсіўна настроены грамадзянін дастаў два нажы і накінуўся на міліцыянераў. Аднаму з супрацоўнікаў фігурант нанёс цялесныя пашкоджанні ў выглядзе колатай раны патыліцы, другі атрымаў рэзаную рану галёнкі. Як паказала медыцынская экспертыза, у выдыхнутым паветры ў мужчыны было тры праміле алкаголю.

Суд прызнаў мужчыну вінаватым у замаху на забойства супрацоўніка органаў унутраных спраў у сувязі з выкананнем ім абавязкаў па ахове грамадскага парадку (частка 1 артыкула 362 КК Рэспублікі Беларусь), а таксама супраціве супрацоўніку міліцыі, звязаным з прымяненнем гвалту (частка 2 артыкула 363 КК Рэспублікі Беларусь).

Суд прызначыў яму пакаранне – пазбаўлення волі на 13 гадоў з адбываннем у папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з прымусовым лячэннем ад хранічнага алкагалізму. Фігурант раней да крымінальнай адказнасці не прыцягваўся.

Акрамя таго, судом задаволеныя грамадзянскія іскі пацярпелых аб кампенсацыі прычыненай маральнай шкоды. Двум міліцыянерам асуджаны павінны выплаціць у агульнай суме пяць тысяч рублёў. Частку з іх міліцыянеры плануюць аддаць на дабрачыннасць.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Знайшлі самагонны апарат. Кажуць, найбуйнейшы на Міншчыне

**МАЛАДЗЕЧНА**

Падчас рэйду міліцыянеры знайшлі ў вёсцы Схоліна Палачанскага сельсавета буйную самагонную вытворчасць.

Алкагольны цэх 47-гадовы мясцовы жыхар размясціў у прасторным хляве плошчай больш за сто квадратных метраў на ўласным зямельным участку. Міні-завод быў абсталяваны на ўскрайку вёскі.

Міліцыянеры засталі фігуранта за працай. Ён ужо паспеў выгнаць крыху спіртнога. У гаспадарчай пабудове стаяла неабходнае абсталяванне для вытворчасці моцнага алкагольнага напою: кацёл, бражнікі, халадзільнік і два сухапарнікі. У 27 палімерных ёмістасцях было крыху больш за 20 тон брагі. Таксама ў памяшканні знайшлі каністру, у якой было 30 літраў ужо гатовага самагону. Буйны па сваіх габарытах апарат дазваляў выраблять за кароткі час вялікія аб'ёмы самагону. Тут жа знайшлі мяшкі з мукой і некалькі скрынь з дражджамі.

Сам фігурант растлумачыў, што гнаў самагон для сябе, рыхтаваўся да ўрачыстасці, а інгрэдыенты захоўваў для кармлення свойскай жывёлы. З дапамогай цяжкай тэхнікі апарат дэмантавалі і вывезлі на металалом. Тоны брагі і каністру самагону канфіскавалі, узоры спіртазмяшчальнай вадкасці накіравалі на экспертызу. Па яе выніках прымуць прававое рашэнне.

За захоўванне самагоннага апарата, выраб моцных алкагольных напояў і паўфабрыкатаў фігуранту пагражае штраф па некалькіх пратаколах.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## ДАІ шукае сведкаў смяротнай аварыі ў Маладзечанскім раёне

**МАЛАДЗЕЧНА**

27 студзеня ў ДТЗ на Маладзечаншчыне загінуў пешаход. ДАІ Маладзечна шукае сведкаў і відавочцаў здарэння.

Пасля 9 гадзін вечара 38-гадовы смаргонец ехаў на аўтамабілі «Ман» па аўтадарозе Р28 з боку Мінска ў кірунку Маладзечна.

На 62-м кіламетры дарогі ён наехаў на пешахода-мінчаніна 37 гадоў, які перабягаў дарогу злева направа па ходзе руху машыны. Ад атрыманых траўмаў пешаход загінуў.

ДАІ просіць сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Дудко, 1-18 або па тэлефонах: (8 017 6) 74-53-40, 74-53-43 альбо 102.**

**Дыяна ГАЛУЗА, АДАІ Маладзечна.**

## Аўтамабіль выскачыў на сустрэчку

**МАЛАДЗЕЧНА**

18 лютага каля сямі раніцы на 54-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач, каля павароту на вёску Ласі, сутыкнуліся два аўтамабілі «Аўдзі», паведаміла карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

Аўтамабіль «Аўдзі-А6», якім кіраваў 36-гадовы мінчанін, ехаў з боку Мінска да Маладзечна. Ён выехаў на сустрэчную паласу руху, дзе сутыкнуўся з «Аўдзі-А4», якой кіраваў 33-гадовы жыхар Маладзечна. У выніку аўтамабіль «Аўдзі-А6» з'ехаў у кювет і стукнуўся ў дрэва. Людзі не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Школа, дзе прайшлі самыя шчаслівыя гады

## Выпускнікі і настаўнікі – пра Маладзечанскую санаторную школу-інтэрнат

**На пачатку лютага Маладзечанская санаторная школа-інтэрнат сустракала сваіх выпускнікоў. З улікам сённяшняй эпідсітуацыі іх сабралася няшмат. Але ўсе прыйшлі і з падарункамі, і з цёплымі словамі, а некаторыя і з музычнымі нумарамі для роднай школы.**

МАЛАДЗЕЧНА

Да вечара сустрэчы рыхтаваліся з хваляваннем, – кажа педагог-арганізатар **Алена Прывалава**. – У фае разгарнулася выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якую падрыхтавала педагог **Людміла Васільеўна Галенка** з вучнямі. Госці глядзелі фотаальбомы, якія нагадалі пра гісторыю школы. На экскурсіі выпускнікі заўважылі, што школа стала сучаснай і ўтульнай. Тут ёсць ўсе умовы для навучання, выхавання, развіцця і рэабілітацыі дзяцей, хворых на скаліёз.

Пасля на канцэрце былі прывітальныя словы ад дырэктара **Уладзіміра Андрэевіча Ляговіча**, вершы ад першай выпускніцы **Тацццяны Мігуры**, песні ад выпускнікоў эстраднай студыі «Асоль».

– Школа дала нам пуцёўку ў жыццё. Навучыла самастойнасці, адукаванасці. Гэта былі самыя шчаслівыя гады, – адзначыў у выступленні адзін з выпускнікоў.

А яшчэ супрацоўнікі, чый стаж у школе-інтэрнаце складае не адно дзесяцігоддзе, падзяліліся з намі і сваімі думкамі аб прафесіі, і педагагічнымі сакрэтамі.

### Трэнер, які няправільнае плаванне вучня лічыць асабістай абразай



**Людміла Іванаўна Серыкава** выкладае ў школе плаванне больш за 30 год. Да школы працавала трэнерам у гарадскім басейне. А яшчэ раней рыхтавала юных спартсменаў-плыўцоў у Расіі.

– Працаваць не проста. Асабліва напачатку. У нас не было свайго басейна, калі я прыйшла. Хадзілі ў гарадскі, а там глыбіня амаль чатыры метры. Было складана дзецям адолець страх. Зусім іншая справа – свой басейн, – кажа Людміла Іванаўна.

Асноўная задача педагога па плаванні – разгрузка пазваночніка хворых на скаліёз дзяцей. Але плаванне мае шмат іншых станоўчых уласцівасцяў – эмацыйная і псіхалагічная разгрузка, выхаваўчая функцыя, пачуццё калектывізму.

Сама Людміла Іванаўна маладзечанская. У плаванне прыйшла школьніцай, калі ў горадзе пабудавалі басейн:

– У мяне быў вельмі добры трэнер **Юры Міхайлавіч Адзінцоў**. Сябравалі з ім усё жыццё. Пакуль ён жыў, я была ў яго ў дочках. Трэнер быў для мяне вялікім аўтарытэтам – добрасумленны, разумны, выхаваны, начытаны.

Людміла Іванаўна прызнаецца, як былая спартсменка заўсёды стараецца дабіцца ў сваіх вучняў правільнай паставы цела на вадзе. У спартсменаў гэта вельмі важна.

– Напэўна, я часам строга стаўлюся да сваіх вучняў. Але ўсе, хто прыходзіць, вучацца плаваць. Гэта наша першая задача. Загартоўка спартсменкі дае пра сябе знаць. Хочаш выніку – працуй упарта і сумленна.

Людміла Іванаўна на ўроку ўвагу ўдзяляе кожнаму. Каго трэба – пахваліць, а нехта і заўвагу атрымае.

### У родную школу – сакратаром, а пасля лабарантам



**Зоя Сяргееўна Тунік** апошнім часам працуе лабарантам у кабінеце фізікі, раней была ў школе сакратаром і інспектарам па кадрах. А ад 1969 да 1975 года была вучаніцай гэтай школы-інтэрната. Тады тут вучыліся сіроты і паўсіроты.



Падчас канцэрта, які падрыхтавалі да вечара сустрэчы вучні разам з педагогам-арганізатарам Аленай Прывалавай.

Фота забяспечанае Аленай ПРЫВАЛАВАЙ.

– У 1975 годзе нас расфарміравалі. Зрабілі школу для дзяцей са скаліёзам. Я пайшла вучыцца ў іншую ўстанову, але менавіта гэту запомніла цёпла, на ўсё жыццё, – кажа суразмоўца. Прыгадваецца настаўніца **Жанна Фёдараўна Міхнікевіч**, выхавальнікі **Соф'я Іванаўна Шчасная**, **Надзея Аляксееўна Вашкевіч**.

– Мы, вучні, заўсёды адчувалі тут клопат і ад медыкаў, і ад педагогаў. Было цікава жыць і вучыцца. Нас прывучылі да працы, вучылі гатаваць, шыць. З былымі аднакласнікамі часам сустракаемся, цёпла прыгадваем школу. А школа, дарэчы, не такая, як была раней. Больш сучасная і прыгожая дзякуючы кіраўнікам. І асабліва сённяшняму дырэктару.

### Для чаго ў школе клуб «Агняборац»



**Тацццяна Сцяпанаўна Мігура** працуе педагогам дадатковай адукацыі. А ў 1960-м прыйшла ў гэту ж школу першакласніцай разам з сястрой. Дзяўчынкі правучыліся тут восем год.

Перагладаем старыя школьныя фотаздымкі. Тацццяна Сцяпанаўна каментуе:

– Гэта першы клас. Тут я сумная, бо пасадзілі адну сярод хлопцаў. А гэта ўжо дарослыя – выпускнікі. Вось першы дырэктар **Пётр Іванавіч Шадурын**. А вось – паходы і зборы. Паглядзіце, у якіх сціплых спартыўных касцюмчыках.

Яшчэ са школьных гадоў Тацццяна Сцяпанаўна была Снягурачкай на навагодніх раншніках. Нават свае першыя грошы зарабіла як Снягурачка. Прыгадвае, што шапкі, бараду Дзеду Марозу самі рабілі з ваты. Родная школа настолькі дарагая для Тацццяны Сцяпанаўны, што яны з сястрой нават прысвяцілі ёй верш.

– У роднай школе кірую клубам «Агняборац». Раней працавала ў Добраахвотным пажарным таварыстве, пасля была старшым інструктарам пажарнай аховы Маладзечанскага раёна. Калі ж пачалася ваенізацыя нашай службы, мяне накіравалі працаваць у аддзел адукацыі Маладзечанскага раёна. У горадзе я стварала першыя клубы выратавальнікаў-пажарных. Гэта быў 1995 год. Ад нас пайшоў пашырацца гэты рух – клубы ў 11 і 3 школах. Ездзілі на самы першы злёт выратавальнікаў-пажарных «Зубраня» ў 1989 годзе. Я ўзначальвала дэлегацыю ад Мінскай вобласці.

У школе-інтэрнаце Тацццяна Сцяпанаўна ад 2005 года. Да яе ходзяць па жаданні дзеці розных узростаў. Цікавыя практычная і тэарэтычная праграмы. Супрацоўнічаюць з ГРАНС Маладзечна, на тэрыторыі школы праводзяць вучэнні з пажарнымі машынамі, з падачай вады, ходзяць у Цэнтр бяспекі ГРАНС. Тэмы патрэбныя – як паводзіць сябе ў надзвычайных сітуацыях, як аказваць медыцынскую дапамогу. Любяць слухаць пра катастрофу ў Чарнобылі.

– А яшчэ я праводжу шмат гульняў, конкурсаў з падарункамі, каб дзеці і нешта новае даведаліся, і адпачылі ад урокаў, – кажа суразмоўца.

### Дзеці ва ўсе часы – аднолькавыя. Толькі сучасныя – з мабільнікамі



Настаўнік фізічнай культуры **Аляксандр Міхайлавіч Зленка** працуе ў школе-інтэрнаце амаль паўстагоддзя. Дзеці ў яго не толькі робяць практыкаванні, каб вылечыць скаліёз, а нават страляюць з лука.

Педагог прызнаецца, што для яго няма розніцы ў працы з дзецьмі розных узростаў. Хіба шостыя класы больш актыўныя, а малыя па першым часе могуць сумаваць без бацькоў. З сёмымі-дзявятымі – увогуле праблем няма. Адзначае, што дзеці ў школе-інтэрнаце заўсёды занятыя. Таму сумаваць асабліва няма калі.

– Цяпер скаліёзу шмат. Відаць, адгукаецца сядзячы лад жыцця, – заўважае настаўнік. – Але выпадкі раней былі больш зацягнутыя. Цяпер больш увагі паставе дзіцяці надаюць і бацькі, і педагогі, – кажа суразмоўца.

Настаўнік фізкультуры стаяў каля самых вытокаў пераўтварэння школы ў школу-інтэрнат для дзяцей са скаліёзам. Разам з калегамі ездзіў абменьвацца досведам нават у Казахстан, а таксама па Беларусі – у Мінск і ў Гродна. Ды і дзеці раней былі ў маладзечанскім інтэрнаце нават з Камчаткі і Далёкага Усходу.

А яшчэ заўважае, што дзеці ва ўсе часы аднолькавыя. Нават калі ў сённяшняга вучня забраць мабільнік і заняць яго рухомай гульнёй, ён ні чым не адрозніваецца ад сваіх аднагодкаў, якія былі гадоў 30 таму.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ДУА «Маладзечанская санаторная школа-інтэрнат»
УНП 600128662

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае



**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Нісан-Алмера, 1,6 бензін, аўтамат. Т. (8-029) 5042529.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 5/5 (з тэхнічным паверхам). Агульная 71,4, жылая 43,1 (11,7/12,7/18,7), кухня – 8,1. Санвузел раздзельны, кладоўка, падвал. Т. (8-025) 7653611.*

• Гараж у ГК №32 (Фестывальны). Атынкаваны, пафарбаваны, падвал на ўвесь гараж, забетанаваны. Крайні каля агароджы, ёсць магчымасць пашырэння. Т. (8-029) 3593950.*

• Гараж у ГК-21 у Маладзечне па вул. Ф. Скарыны. Т. (8-029) 3069199.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у вёсцы Більцавічы Вілейскага раёна, 25 сотак. Т. (8-029) 7674735, (8-033) 3256297.*

• Дом у Вілейцы, 62 кв. м, участак 15 сотак, сад, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 8649054.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*

### ЗДАМ

• Кватэру ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 2103019.*

### НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне на доўгі тэрмін. Пажадана без мэблі. Аплату гарантую. Т. (8-029) 1774245 пасля 17.00.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Атлант» 2-камрэсарны з ніжняй маразільнай камерай (4 карзіны). Сярэбраны. Стан ідэальны. Цана 650 руб. (торг). Т. (8-029) 1774245 пасля 17.00.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, А1 (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Дзверы металічныя б/у. Т. (8-029) 2311625.

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**
Астравец 01591 • Ашмяны 01593
Валожын 01772 • Вілейка 01771
Маладзечна 0176
Мядзел 01797 • Смаргонь 01592

# Мы знайшлі ўраджэнку Вілейкі Тамару Папкову, якую шукалі сваякі з Вялікабрытаніі

ВІЛЕЙКА

**15 лютага на нашым сайце мы апублікавалі матэрыял пра тое, што сваякі з Вялікабрытаніі шукаюць ураджэнку Вілейкі Тамару Папкову. А 19 лютага Тамара Папкова знайшлася.**

Некалькі дзён водгукаў на артыкул, размешчаны на сайце, не было. З надзеяй на тое, што, магчыма, чытачы папяровай газеты адгукнуцца, мы размясцілі матэрыял у друкаванай версіі «Рэгіянальнай газеты», які 19 лютага толькі друкаваўся. І раптам… званок у рэдакцыю:

> **– Добры дзень! У вас тры дні таму на сайце з'явіўся артыкул, што сваякі шукаюць Тамару Папкову. Я – яе дачка.**

Дачка Тамары, **Наталля Касцюкевіч**, жыве ў Маладзечне. А яе мама, тая самая Тамара Папкова, – на Віцебшчыне, у Глыбоцкім раёне. Туды яна пераехала з Вілейкі ў сярэдзіне 1970-х, калі выйшла замуж. Тут у канцы 1970-х нарадзілася Наталля.

– Гадоў 20 таму я напісала апошняе пісьмо сваякам у Вялікабрытанію, але атрымала паведамленне, што па тым адрасе ніхто не жыве.

> **Мы вельмі хацелі знайсці родных, нават звярталіся ў праграму «Жди меня», але вынікаў не было, – расказала Наталля і падзякавала нам за працу.**

А пазней са словамі падзякі ў сацсетках да сваёй маладзечанскай сваячкі далучылася **Вікторыя Гулецкі**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Вікторыяй ГУЛЕЦКІ.

Тамара Папкова ў дзяцінстве.

## Як налічваюць транспартны падатак фізасобам і як яго плаціць

**Ад 1 студзеня ўвялі транспартны падатак. Ім абкладаюцца транспартныя сродкі, зарэгістраваныя за фізічнымі асобамі ў ДАІ.**

Фізічным асобам транспартны падатак будуць вылічваць падатковыя органы. Для налічэння ўладальнік аўто павінны падаваць звесткі ў дзяржорганы і іншыя арганізацыі, у тым ліку і ў тыя, дзе рэгіструюць транспартныя сродкі. Падатак будуць разлічваць па стаўках згодна з пунктам 2 дадатку 27 да Падатковага кодэкса. Калі няма звестак пра дазволеную максімальную масу машыны, стаўкі транспартнага падатку ўстановяць у памеры мінімальнай стаўкі для адпаведнага тыпу транспартнага сродку.

Калі ўладальнік аўто – ветэран Вялікай Айчыннай, інвалід першай ці другой групы, пенсіянер, стаўкі транспартнага падатку прымяняюцца ў памеры 50 працэнтаў. Калі машына зарэгістравана на інваліда трэцяй групы, стаўкі транспартнага падатку прымяняюцца ў памеры 75 працэнтаў. Ільготу па зніжэнні стаўкі ўладальнікі аўтамабіляў атрымаюць, калі будуць мець пасведчанне кіроўцы адпаведнай катэгорыі. Поўнае або частковае вызваленне ад выплаты не выкарыстоўваючага ў прадпрымальніцкай дзейнасці. Аднак яго маюць права атрымаць фізічныя асобы, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Такое вызваленне даецца мясцовымі Саветамі дэпутатаў або па іх даручэнні выканаўчымі і распарадчымі органамі.

Штогод да 1 верасня фізічным асобам будуць уручаць паведамленне з пэўнай сумай вылічанага падатку за мінулы год. Заплаціць трэба будзе не пазней за 15 лістапада наступнага года.

За 2021 год прадугледжаны адмысловы парадак выплаты падатку асобамі, якія не атрымалі на 1 студзеня 2021 года дазвол на допуск да ўдзелу ў дарожным руху. Такія плацельшчыкі абавязаны будуць унесці не пазней як 15 снежня 2021 года авансавы плацеж у памеры базавай велічыні. За прычэп, прычэп-караван, матацыкл авансавы плацеж – 20 рублёў. Даплату падатку за 2021 год трэба будзе атрымаць не пазней за 15 лістапада 2022 года.

Калі дазвол выдалі да 1 студзеня 2021, то дзяржаўная пошліна, выплачаная ў адпаведнасці з заканадаўствам, не вяртаецца і не залічваецца ў кошт выплаты падатку. Пры гэтым транспартны падатак не выплачваецца за аўто, у дачыненні да якога не скончыўся тэрмін дзеяння дазволу, за выдачу якога была выплачаная дзяржаўная пошліна.

Па заканчэнні тэрміну дзеяння дазволу, транспартны падатак да выплаты разлічаць прапарцыйна колькасці месяцаў, якія ідуць за месяцам, калі скончыўся тэрмін дзеяння такога дазволу.

Падставы вяртання або заліку дзяржаўнай пошліны вызначаны ў артыкуле 292 Падатковага кодэкса. Напрыклад, вернуць грошы, залічаць іх цалкам або часткова ў транспартны падатак, калі:

- дзяржаўная пошліна выплачаная ў большым памеры альбо не павінна была выплачвацца;
- плацельшчык адмаўляецца ад выдачы дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху да звароту ў УП «Белтэхагляд»;
- плацельшчыку адмовілі ў выдачы дазволу на допуск аўто да ўдзелу ў дарожным руху.

У іншых выпадках дзяржаўная пошліна не вяртаецца і не залічваецца.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Маладзечанскага раёна.**

# Да вас прыйшлі з ператрусам. Што раіць праваабаронца

**Як дзейнічаць і абараняць свае інтарэсы ў выпадку, калі да вас прыйшлі з ператрусам, расказвае праваабаронца Алег Мацкевіч.**



Маладзечанец Руслан Кісялёў выходзіць з дому пасля таго, як у яго кватэры ўчынілі ператрус 4 лістапада мінулага года.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

### 1. Як павінны вас папярэдзіць пра ператрус?

Ніяк. Ператрус – гэта адмысловы від працэсуальнага следчага дзеяння, неадкладнага па сваім характары. Накіраваны на выяўленне ў памяшканні або іншым месцы ў якой-небудзь асобы прадметаў, дакументаў і іншага, што можа мець значэнне для крымінальнай справы.

**Зразумела, што інтарэсы следства і асобы, у якой мае адбыцца ператрус, дыяметральна супрацьлеглыя, а любое папярэджанне аб меркаваным ператрусе перашкаджае мэтам сілавых структур.**

### 2. Ці можаце не адчыняць дзверы, калі грукаецца міліцыя?

Калі да вас прыйшлі з тым, каб правесці ператрус, проста не адкрыць дзверы і такім чынам не ўпусціць у дом супрацоўнікаў кампетэнтных органаў не атрымаецца.

Можна не спяшацца адчыняць дзверы, спрабуючы ўдакладніць некаторыя акалічнасці: ці ёсць пастанова аб ператрусе, у сувязі з чым ён праводзіцца, які орган праводзіць, прозвішчы і пасады асоб, якія прыйшлі да вас. Можна нават паспрабаваць высветліць па тэлефоне, ці сапраўды супрацоўнікі названага органа прыйшлі да вас з заяўленымі мэтамі.

У любым выпадку варта памятаць, што патрабаванні органа крымінальнага пераследу, прад'яўленыя ў адпаведнасці з законам, абавязковыя для выканання ўсімі арганізацыямі, службовымі асобамі і грамадзянамі, а пры правядзенні ператрусу могуць адкрываць замкнутыя памяшканні і сховішчы, калі ўладальнік адмаўляецца добраахвотна іх адкрыць. У вас будзе досыць абмежаваная колькасць часу, каб адцягнуць увагу гасцей, хаця б з тым, каб папярэдзіць аб ператрусе сваіх знаёмых і адваката.

### 3. Калі ў кватэры ёсць дзеці або іншыя члены сям'і, якія не маюць дачынення да справы, ці можна, каб яны не былі дома?

Усё залежыць ад волі кіраўніка аператыўнай групы, якая праводзіць ператрус. Згодна з нормамі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, следчы або асоба, якая ажыццяўляе дазнанне, мае права забараніць асобам, якія знаходзяцца ў памяшканні або месцы, дзе праводзіцца ператрус або канфіскацыя, і асобам, якія прыходзяць у гэтае памяшканне або месца, пакідаць яго, а таксама мець зносіны адзін з адным ці іншымі асобамі да заканчэння ператрусу ці выемкі.

### 4. Як засцерагчыся ад таго, каб не падкінулі тое, што не належыць вам?

Па-першае, не дапускаць, каб ператрус адбываўся адначасова ў розных памяшканнях кватэры ці жылога дома. Калі гэта ўсё ж адбываецца, трэба зрабіць заўвагу следчаму аб незаконнасці дзеянняў групы і пасля занатаваць яе ў пратаколе ператрусу.

Па-другое, не кранаць рэчы, якія раптоўна знайшліся падчас ператрусу і вам не належаць. Адсутнасць адбіткаў пальцаў на іх будзе добрай дапамогай у тым, каб надалей даказаць, што рэчы маюць чужароднае паходжанне.

Па-трэцяе, можна фіксаваць усе дзеянні аператыўнай групы ў пісьмовым выглядзе. Сам факт таго, што вы вельмі ўважліва ставіцеся да працэдуры ператрусу, будзе дысцыплінаваць сілавікоў. Калі з аператыўнай групай прыйшлі незнаёмыя вам панятыя, можна настойваць на тым, каб у іх ролі выступілі вашы суседзі. Папрасіце іх таксама ўважліва сачыць за дзеяннямі аператыўнікаў і запамінаць важныя моманты.

### 5. Ці можна патрабаваць пры ператрусе адваката?

Можна. Калі ж вам у гэтым праве адмаўляюць, варта нагадаць службовай асобе змест артыкула 62 Канстытуцыі: кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, органах мясцовага кіравання, на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, грамадскіх аб'яднаннях і ў адносінах са службовымі асобамі і грамадзянамі. Супрацьдзеянне аказанню прававой дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь забараняецца.

Аператыўнікі абавязаныя дачакацца прыезду адваката, з якім у вас ёсць пагадненне. Калі ж яго няма – заключыць пагадненне можна на месцы. У выпадку адмовы ў патрабаванні адвакацкай дапамогі заносьце заўвагу ў пратакол ператрусу і потым абскарджвайце дзеянні сілавікоў.

### 6. Ці можна здымаць на відэа, як у вас праводзяць ператрус?

Звычайна падчас ператрусу аператыўная група самастойна выкарыстоўвае навукова-тэхнічныя сродкі выяўлення і замацавання слядоў злачынства, у тым ліку відэазапіс.

Ці могуць выкарыстоўваць відэазапіс падчас ператрусу іншыя асобы, якія знаходзяцца на месцы працэсуальнага дзеяння, вырашае следчы.

**Калі такая забарона накладзеная, занатоўвайце дзеянні аператыўнікаў пры дапамозе пісьмовых сродкаў.**

### 7. А калі здымаюць сілавікі на відэа, ці можна забараніць здымаць? Ці можна забараніць, каб гэта відэа з'яўлялася ў публічнай прасторы?

Забараніць весці відэаздымку аператыўнікам з прычын, пазначаных вышэй, нельга. У той жа час можна патрабаваць, каб следчы, асоба, якая ажыццяўляе дазнанне, прымалі меры для таго, каб не былі апублічаныя выяўленыя пры ператрусе і выемцы абставіны прыватнага жыцця асобы, якая займае дадзенае памяшканне, або іншых асоб згодна з артыкулам 210 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

Некаторыя юрысты раяць наўпрост пісаць аб забароне на апублічванне звестак аб прыватным жыцці, атрыманых падчас відэазапісу, у пратаколе ператрусу.

### 8. Якія дакументы павінны застацца ў вас пасля ператрусу?

Завяршаецца ператрус складаннем пратакола. Згодна з нормамі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, у пратаколе павінна быць паказана, у якім месцы і пры якіх абставінах знайшлі прадметы, дакументы і каштоўнасці, выдадзеныя яны добраахвотна ці канфіскаваныя прымусова. Усе забраныя прадметы павінны быць пералічаныя ў пратаколе з дакладным указаннем колькасці, меры, вагі, індывідуальных прыкмет і па магчымасці кошце. Копія пратакола выдаецца пад роспіс асобе, у якой рабіўся ператрус.

Перад тым, як падпісаць паперу, варта ўнесці ў яе ўсе свае заўвагі, пералічыць усе заўважаныя парушэнні. Па магчымасці, можна прасіць зрабіць тое ж самае прысутных пры ператрусе панятых.




Людзі трымаюць вялікі бел-чырвона-белы сцяг на адным з мітынгаў у жніўні ў Маладзечне.

# Расійская прапаганда вінаваціць дзяржаўную ідэалогію Беларусі ў нацыяналістычных настроях грамадства

**Апошнім часам расійская прапаганда крытыкуе рэжым Аляксандра Лукашэнкі з-за правалу ідэалагічнай падтрымкі. Па меркаванні некаторых прапагандыстаў з Расіі, гэта вылілася ва ўмацаванні беларускага нацыяналістычнага настрою сярод грамадства.**

«Рэгіянальная газета» разабрала тэкст «Ідэалагічнае банкруцтва рэжыму Лукашэнкі вядзе да панавання нацыяналізму» за аўтарствам **Георгія Шклоўскага** на сайце «Рэгнума».

### Пакутнік, якога звальняюць за грамадзянскую пазіцыю

Артыкул Шклоўскага пачынаецца з гісторыі дырэктара Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» **Сяргея Клімава**. Яго звольнілі праз пяць месяцаў пасля таго, як работнікі музея-запаведніка ў жніўні вывесілі на сцяну нясвіжскага замка бел-чырвона-белы сцяг.

Па меркаванні Шклоўскага, Клімава звольнілі, таму што ў сценах дзяржаўнай установы правялі антыдзяржаўны мітынг, а калектыў выступіў супраць дзяржаўнага сцяга.

Шклоўскі піша, што нацыяналістычныя СМІ робяць з Клімава пакутніка. Пад нацыяналістычнай прэсай аўтар «Рэгнума» разумее партал TUT.by, «Комсамольскую правду» в Белоруссии», а «Нашу Ніву» называе ўвогуле русафобскім выданнем.

### З БЧБ-сцягам ходзяць толькі нацыяналісты, а раней – фашысты

Лейтматыў міні-гісторыі пра дырэктара нясвіжскага музея-запаведніка – гэта чарговая спроба расказаць пра бел-чырвона-белы сцяг, з якім ходзяць цяпер нацыяналісты, а падчас Другой сусветнай хадзілі фашысты.

Шклоўскі піша, што з бел-чырвона-белым сцягам толькі негатыўныя асацыяцыі, падчас вайны пад ім хадзілі калабарацыяністы і фашысты.

«Уся гісторыя гэтага сцяга – гэта гісторыя здрады, калабарацыянізму і іншых злачынстваў перад народам Беларусі».

Аднак аўтар чамусьці не дадае, што расійскі трыкалор выкарыстоўвалі таксама расійскія калабарацыяністы: напрыклад, Расійская вызваленчая армія Уласава. З дзяржаўнымі сцягамі некаторых еўрапейскіх краін была такая ж гісторыя.

Пра сучаснае выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга Шклоўскі піша, што з ім ходзяць толькі нацыяналісты. У артыкуле да здымкаў людзей з БЧБ-сцягам дадаецца подпіс: «Беларускія нацыяналісты».

Шклоўскі адзначае, што Лукашэнка не здолеў стварыць працоўную дзяржаўную ідэалогію, а беларускія нацыяналісты ставяцца ў супрацьлеглую пазіцыю, бо ў іх ідэалогія ёсць, і ўжо даўно.

### Крытыка Лукашэнкі

Галоўнай тэмай для аўтара артыкула з'яўляецца правальная дзяржаўная ідэалогія рэжыму Лукашэнкі. У аўтара «Рэгнума» Аляксандр Лукашэнка паўстае не як прэзідэнт (яго так нават і не называе Шклоўскі) і моцны лідар, а як чалавек, які цалкам праваліў унутраную палітыку і не сфарміраваў за 26 год ідэалогію, на якой трымалася б улада. Праз гэта, піша Шклоўскі, нацыяналістычная накіраванасць апазіцыі захоплівае шырокія масы насельніцтва.

Шклоўскі крытыкуе не толькі палітыку Лукашэнкі па ідэалагічным кірунку, але і ўласна ідэолагаў. Ён лічыць, што з-за таго, што яны не дапрацавалі некалькі гадоў таму, сілавікам з пратэстоўцаў даводзіцца «выбіваць міліцэйскай дубінкай, арыштамі, катаваннямі і іншымі мерамі». Шклоўскі мяркуе, што Лукашэнка здольны на больш крайнія меры:

«Заўтра, калі спатрэбіцца, Лукашэнка не спыніцца перад масавымі расстрэламі – паўгода таму ён пра гэта папярэджваў».

Аўтар характарызуе праўленне Лукашэнкі як тыранію, у якой галоўная ідэя – захаванне ўлады. На думку Шклоўскага, ён страчвае кадравыя рэсурсы з-за рэпрэсій, а іншых людзей не знаходзіць. Палітыку Расіі ў адносінах да цяперашняга стану апісвае такім чынам: «Масква не выказвае зацікаўленасці ў переменах».

Медыяэксперт **Паўлюк Быкоўскі** ў інтэрв'ю «РГ» адзначыў, што хваля крытыкі афіцыйнага Мінска ў расійскіх медыя пачалася прыкладна ў лістападзе мінулага года, «калі Лукашэнка пачаў пераглядаць тое, што лічылася сочынскімі дамоўленасцямі – кіраваную трансфармацыю палітычнай сістэмы з замацаваным у Канстытуцыі пераразмеркаваннем паўнамоцтваў ад прэзідэнта да парламента».

Разам з тым Быкоўскі падкрэслівае, што хаця «Рэгнум» уліваецца ў хор праваднікоў «русского мира», гэта выданне заўсёды было накіраванае на крытыку Лукашэнкі і яго нельга разглядаць як адназначную пазіцыю Крамля. «У гэтым сэнсе дыскрэдытацыя бел-чырвона-белага сцяга – гэта тое, што яднае «русский мир», крамлёўскую і беларускую дзяржаўную прапаганды, якія выступаюць спадарожнікамі па гэтым пытанні, але будуць моцна разыходзіцца, калі раптам Крэмль пачне гульню супраць Лукашэнкі», – мяркуе эксперт.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

Чатырох смаргонцаў вызвалілі пасля трох дзён у ізалятары. На фота Рамуальд Улан (злева) і Ілля Петуноў.

# У Смаргоні адправілі на дапрацоўку справы за вокліч «Жыве Беларусь!» у будынку суда

**22 лютага ў судзе Смаргонскага раёна павінны былі разглядаць справы чатырох затрыманых смаргонцаў на мінулым тыдні за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве ў будынку суда. Але суддзя накіраваў справы ў РАУС на дапрацоўку.**

### «Суд будзе ў Астраўцы»

Ад раніцы на стэндзе суда вісеў расклад пасяджэнняў: ад адміністрацыйных спраў за абразы да крымінальных за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Сярод шматлікіх пасяджэнняў у смаргонскіх суддзяў не было разбору па артыкуле 23.34 КаАП.

22 лютага павінны былі прайсці 72 гадзіны з моманту затрымання як мінімум пяці смаргонцаў – **Іллі Петунова**, **Яўгена Новікава**, **Людмілы Сульжыцкай**, **Рамуальда Улана** і **Сяргея Трая**.

Іх затрымалі пасля суда, што адбыўся 18 лютага над **Русланам Валюком** і **Інэсай Маркавай** па справе аб паклёпе. Прысутныя выйшлі з залы пасяджэння, нібыта нехта крыкнуў «Жыве Беларусь!», з суседняй залы выйшла старшыня суда **Людміла Пятрова** і заявіла, што людзі парушаюць грамадскі парадак. Пасля частку людзей адвялі ў аддзяленне міліцыі, пагутарылі і адпусцілі. 19 лютага затрымалі пяць чалавек па адміністрацыйным артыкуле 23.34 за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве ў будынку суда.

Раніцай 22 лютага сябры чакалі, што адбудуцца пасяджэнні. У канцылярыі суда карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» сказалі, што справы па артыкуле 23.34 разглядацца не будуць, а ў аддзяленні міліцыі родным затрыманых не далі дакладнага адказу, ці пройдуць сёння суды.

Пасля абеду мясцовыя жыхары сказалі, што разборы могуць прайсці ў Астраўцы. Аднак пасля блізкія затрыманых удакладнілі, што справы будуць разглядаць у смаргонскім судзе. Пра час не паведамлялі ні ў міліцыі, ні ў судзе.

Прыкладна ў 16 гадзін будынак суда пачалі патруляваць двое супрацоўнікаў міліцыі. У будынку суда – яшчэ чатыры міліцыянеры. У 17 гадзін суддзя **Сяргей Боландзь** у зале заявіў, што ў справах Петунова, Новікава, Сульжыцкай і Улана ёсць недакладнасці, іх накіроўваюць у Смаргонскі РАУС, а пра разгляд папярэдзяць загадзя. Сяргея Трая выпусцілі з ІЧУ 23 лютага.

### Ілля Петуноў

18 лютага Ілля Петуноў прысутнічаў на судзе па справе Валюка і Маркавай. Пасля пасяджэння бачыў, як Рамуальд Улан выйшаў амаль першым, а ён сам спусціўся на першы паверх.

– На турнікеце стаяла суддзя Пятрова, яна не выпускала. Сказала, што нікога не выпусціць з будынка. Я развярнуўся, пайшоў у канцылярыю. Праз нейкі час спусціўся ўніз, там міліцыянер паклікаў у РАУС

У аддзяленні міліцыі ён правёў больш за тры гадзіны. Петунова апыталі, забралі мабільны тэлефон. На наступны дзень мужчына пайшоў у РАУС з заявай, каб яму вярнулі сім-карту, бо ён застаўся без сувязі.

– Да мяне выйшаў супрацоўнік і сказаў ісці за ім. Мы падняліся на другі паверх. Я ведаю, што трэба павярнуць направа, кажу яму пра гэта. Ён вядзе ў іншы кабінет, дзе сядзеў начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі **Руслан Ткачоў**. Той пачаў казаць, што мы нешта арганізавалі. Кажу, што нічога не арганізоўваў, паказваю яму заяву. Ён гэту заяву кінуў увогуле.

Затым на Петунова склалі пратакол адміністрацыйнага затрымання. Трое сутак ён правёў у ІЧУ Смаргонскага РАУС. У ізалятары Сяргей Трай расказаў Петунову, што ў пятніцу яму далі двое сутак. Пасля мужчына чуў, як у ІЧУ завялі Сульжыцкую і Улана.

### Рамуальд Улан

18 лютага пасля пасяджэння па Валюку і Маркавай Рамуальд Улан хутка выйшаў з суда, бо спяшаўся на працу. У той дзень яго апыталі, забралі тэлефон і адпусцілі.

– У пятніцу дэжаваю, другая серыя. Прыйшлі сяржанты, папрасілі збірацца з рэчамі, бо наўрад ці адпусцяць. Адтуль адразу ў ізалятар. Мяне вінавацяць у пікетаванні ў будынку суда. Але я ж не пікетаваў.

### Людміла Сульжыцкая

Людмілу Сульжыцкую затрымалі ўвечары ў пятніцу, 19 лютага. Па яе словах, яна ўвечары выйшла на шпацыр у горад.

– Пад'ехалі да пешаходнага перахода міліцыянеры. Я паспела паведаміць знаёмым, каб яны звязаліся з дзецьмі, бо трэба глядзець за паравым ацяпленнем у доме.

Сульжыцкую затрымалі некалькі супрацоўнікаў, адвезлі ў аддзяленне. Яна пыталася ў іх, на якой падставе затрыманне, ёй адказвалі, каб паразмаўляць.

– Як толькі зайшлі за дзверы аддзялення, мне каротка і ясна сказалі – «На ІЧУ».

У Людмілы праблемы са спінай, яна не можа доўга сядзець, то ёй трэба ці ляжаць, ці стаяць. Спецыяльны гарсэт для спіны ў яе забралі.

– У суботу напісала дзве заявы. Адна заява па судзе па запазычанасцях, каб справу без мяне не разглядалі. А другая заява – аб'яўленне галадоўкі. Яны прывозяць мяне на размову, закрываюць у ІЧУ, ведаючы, што ў мяне праблемы са спінай, што я не супрацiўляюся, заўсёды прыходжу, то аб'явіла галадоўку.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Усе мы нарадзіліся з казак

## Педагог – пра значэнне беларускіх народных казак у выхаванні дзяцей

СМАРГОНЬ

**Ці бачылі вы твар дзіцяці, якое слухае казкі? Які сусвет там ствараецца! Казка – гэта найхутчэйшы варыянт пражывання цэлага жыцця. Толькі задумайцеся: дзе яшчэ можна так хутка разам з героем нарадзіцца, вырасці, трапіць у розныя прыгоды, ажаніцца, састарэць?**


Інсцэніроўка казкі з цацкамі ў садку.

### Казкі як усведамленне дабра і зла

Вялікая разнастайнасць казак дазваляе пражыць розныя сцэнары жыцця ў залежнасці ад дзеянняў, учынкаў герояў. Гэта магчымасць адчуць безліч эмоцый, убачыць вынікі, да якіх прыйшлі казачныя героі, і зрабіць свой выбар.

Цяпер, у час рыначных адносін, вялікая ўвага надаецца досведу чалавека. Менавіта досвед мае пэўны кошт і запатрабаванасць у грамадстве. Але не трэба забываць, што ўнікальныя веды, уменні і навыкі набываюцца чалавекам у залежнасці ад яго каштоўнасцяў і прыярытэтаў, сфарміраваных на працягу жыцця. А пачатак шляху і пачынаецца ў дзяцінстве з закладвання паняццяў дабра і зла, справядлівасці, павагі, любові, працавітасці, адказнасці.

Дабро і зло – гэта не проста словы, гэта полюсы жыцця чалавека. Казкі дапамагаюць прыцягнуцца да полюса дабра і свету. Дык пасейце гэту мару ў лепшае ў душы вашага дзіцяці, чытаючы беларускія народныя казкі.

### Казкі матывуюць да вывучэння роднай мовы

У кожнага народа казкі маюць сваю ўнікальнасць. Беларускія казкі паказваюць ментальнасць нашага народа, яго мары, памкненні, гісторыю і культуру, даюць разуменне, хто мы і адкуль прыйшлі, што сабой уяўляем.

І, канешне, асобай увагі заслугоўвае мова казак. Гэта багацейшая крыніца беларускіх слоў, выразаў, вобразаў. Яе прыгажосць, значэнне складана пераацаніць.

Многія людзі цяпер сталі праяўляць цікавасць да беларускай мовы: ствараецца шмат суполак, курсаў, на якіх беларусы шукаюць інфармацыю, аднадумцаў для вывучэння роднай мовы.

Канешне, вельмі важна ведаць граматыку, фанетыку, гісторыю мовы, але, на мой погляд, для гэтага шляху найперш патрэбная матывацыя, якая нараджаецца глыбока ў душы, якая выпрацоўваецца, як знойдзеная каштоўнасць на працягу ўсяго шляху да роднай мовы.

**І гэтай матывацыяй могуць быць пачутыя ў далёкім дзяцінстве беларускія народныя казкі.**

Дык не пазбаўляйце сябе і сваіх дзяцей такой каштоўнасці. Чытайце ім, расказвайце, тлумачце, абмяркоўвайце. Бо гэтым вы тлумачыце ім жыццё.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальніца дашкольнай адукацыі ясляў-сада №8 горада Смаргоні.**
**Фота аўтара.**

# Дзень роднай мовы адзначылі з гульнямі і казкамі

**Напярэдадні свята роднай мовы ў яслях-садку №15 пад дэвізам «Беларуская мова – мелодыя сэрца» зладзілі тэматычны дзень. Яго мэтай было паказаць значэнне роднай мовы, традыцый і гісторыі беларускага народа ў фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці выхаванцаў.**

СМАРГОНЬ

Педагогі правялі мерапрыемствы на роднай мове. На працягу дня выхаванцы паказвалі беларускія казкі «Зайкава хатка», «Каза-манюка», «Як кот звяроў напалохаў», гулялі ў беларускія народныя гульні «Кот і мышы», «Вожык і мышы», «Чый галасок», «Лён».

Прадстаўленне лялечнага тэатра «Батлейка» заўсёды захапляла нашых выхаванцаў. А яшчэ больш уражанняў засталося пасля таго, калі яны пазнаёміліся з лялькамі-персанажамі і паслухалі пра гісторыю ўзнікнення «Батлейкі».

У садку таксама зладзілі кніжную выставу. Тут кожны мог узяць беларускія народныя казкі, творы беларускіх пісьменнікаў, часопісы.

Экскурсія ў беларускую хатку спадабалася выхаванцам малодшых груп. Яны разглядалі цацкі з дрэва, гліны, ільну, тканіны.

А выхаванцы старэйшай групы паўдзельнічалі ў музычна-літаратурным салоне «Мы забыць сваю мову не маем права…». Падчас яго правядзення гучалі на роднай мове вершы, песні, паданні.

Для педагогаў у садку арганізавалі выставы дзіцячай літаратуры, паказалі картатэкі дыдактычных гульняў.

Мы ўпэўненыя, што, далучаючы дзяцей да роднай мовы, выхоўваем іх добрымі і разумнымі, дапытлівымі і ўважлівымі, спрыяем фарміраванню ў іх цікавасці і станоўчых адносін да роднай мовы, краіны, вытокаў культуры беларускага народа.

**Ірына ЗЯНКЕВІЧ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці,**
**Алена ТРАСКОЎСКАЯ,**
**музычны кіраўнік ясляў-сада №15 Смаргоні.**


Фота забяспечана аўтарамі.
Падчас тэатральнай пастаноўкі казкі «Зайкава хатка».

# Беларусь можа выступіць на Алімпіядзе ў Токіа пад нейтральным сцягам

**Выданне Inside the Games паведаміла, што выканаўчы савет Міжнароднага алімпійскага камітэта (МАК) разгледзіць пытанне аб удзеле каманды Беларусі ў Алімпіядзе ў Токіа пад дзяржаўным сцягам.**




Фота insidethegames.biz.

Да Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі ўведзеныя санкцыі напрыканцы 2020 года.

### Гульні пройдуць у пандэмію каронавіруса

Кіраўнік арганізацыйнага камітэта па правядзенні Алімпійскіх гульняў у Токіа **Сэйка Хашымота** выступіць перад выканаўчым саветам МАК. Сустрэча пройдзе дыстанцыйна праз пандэмію каронавіруса.

**Галоўнай тэмай будзе пытанне аб фінальнай падрыхтоўцы да Алімпійскіх і Паралімпійскіх гульняў, што пройдуць на фоне пандэміі.**

Правядзенне буйных спартыўных спаборніцтваў выклікае грамадскую занепакоенасць у Японіі. Выданне Reuters правяло апытанне сярод японскіх фірмаў: амаль дзве трэціны выступаюць супраць Алімпіяды ў час сусветнага крызісу.

**Японія толькі на мінулым тыдні пачала распаўсюджванне вакцыны супраць COVID-19.**

Да адкрыцця гульняў большая частка насельніцтва будзе не прышчэпленая.

### Пытанне Беларусі

Яшчэ адным з галоўных пытанняў на павестцы выканаўчага савета будзе выступленне Беларусі пад дзяржаўным сцягам. Міжнародны алімпійскі камітэт пачаў расследаванне ў дачыненні да Нацыянальнага камітэта Беларусі пасля нядаўніх заяў аб палітычнай дыскрымінацыі спартсменаў.

Inside the Games паведамляе, што многія спартсмены пратэставалі супраць пераабрання **Аляксандра Лукашэнкі** на прэзідэнцкіх выбарах у жніўні 2020 года.

**Ад моманту падпісання ліста Свабоднага аб'яднання спартсменаў з заклікам спыніць гвалт з боку сілавікоў і правесці новыя сумленныя выбары, больш за 100 спартсменаў былі падвергнутыя рэпрэсіям.**

У снежні 2020 года выканаўчы савет МАК пастанавіў, што «цяперашняе кіраўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі належным чынам не абараніла беларускіх спартсменаў ад палітычнай дыскрымінацыі».

Па меркаванні МАК, гэта супярэчыць Алімпійскай хартыі. Супраць прэзідэнта НАК, якім з'яўляецца Аляксандр Лукашэнка, і віцэ-прэзідэнта НАК **Віктара Лукашэнкі** ўвялі санкцыі: ім забаронена наведваць міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы, фінансавая падтрымка НАК Беларусі спыненая.

У выпадку, калі выканаўчы савет МАК вырашыць, што спартсмены, якія пратэстуюць супраць Лукашэнкі, усё яшчэ падвяргаюцца дыскрымінацыі, то могуць быць прынятыя далейшыя меры.

**Яны ўключаюць у сябе прыпыненне дзейнасці Нацыянальнага алімпійскага камітэта і прымушэнне беларускіх спартсменаў выступаць пад алімпійскім сцягам, а не пад дзяржаўным.**

Пасля жнівеньскіх падзей Беларусь ужо пазбавілі некалькіх спартыўных падзей: сёлетні чэмпіянат свету па хакеі, чэмпіянат свету па сучасным пяцібор'і.

Сам Лукашэнка ахарактарызаваў санкцыі Міжнароднага алімпійскага камітэта як «палітычна матываваныя», якія маюць намер «аказаць ціск на адміністрацыю Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі».

**Настасся УТКІНА.**

## «Іслач» будзе гуляць на стадыёне ў Маладзечне

У сезоне-2021 футбольны клуб «Іслач» будзе гуляць на двух стадыёнах. У тым ліку і ў Маладзечне. Аб гэтым паведамляецца на афіцыйным сайце клуба.

Ад сакавіка да красавіка – на стадыёне ФК «Мінск».

Ад мая да лістапада – на гарадскім стадыёне ў Маладзечне.

**Прэс-служба ФК «Іслач».**

## ФК «Маладзечна» буйна прайграў «Смаргоні»

20 лютага маладзечанцы правялі таварыскі матч з камандай «Смаргонь». ФК «Маладзечна» гуляў супраць сапернікаў на выездзе. Сустрэча завяршылася з лікам 6:0 на карысць смаргонцаў.

Для смаргонскай каманды гэта быў трэці падрыхтоўчы матч перад сезонам, а для маладзечанцаў толькі першы.

27 лютага «Смаргонь» згуляе з асноўным складам «Іслачы», а «Маладзечна» – з другой камандай «Іслачы».

**Настасся УТКІНА.**

## Міжнародная федэрацыя хакея чакае інфармацыю ад Генпракуратуры Беларусі па справе Баскава

Прэс-служба Міжнароднай федэрацыі хакея паведаміла выданню DW пра тое, як адбываецца расследаванне аб датычнасці старшыні федэрацыі хакея Беларусі **Дзмітрыя Баскава** да гібелі **Рамана Бандарэнкі**.

**У Міжнароднай федэрацыі заявілі, што не могуць назваць дакладную дату завяршэння расследавання.**

Аднак паведамілі, што чакаюць інфармацыю ад генеральнага пракурора Беларусі для дапамогі ў расследаванні.

**Паводле dw.com.**

## Шаранговіч застаецца ў запасе «Нью-Джэрсі»

«Нью-Джэрсі Дэвілз» пакінуў беларускага хакеіста з вілейскімі каранямі **Ягора Шаранговіча** ў складзе запаснікоў.

Форвард ужо прапусціў сустрэчу супраць «Вашынгтона». Усяго ў активе беларускага гульца 3 балы (2 галы і 1 перадача) у 12 матчах НХЛ. У сярэднім Шаранговіч праводзіць на лёдзе 14 хвілін.

**Паводле «Трыбуны».**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Частка вяроўкі, шнура, ніткі і пад., складзеная кальцом і завязаная так, што канцы яе можна зацягнуць.
5. Прыстасаванне, пры дапамозе якога можна мяняць напрамак руху машыны ў процілеглы бок.
6. Пасма валасоў, якая спадае на лоб або ўзнімаецца над ілбом.
7. У гэтым горадзе адбыўся чвэрцьфінальны матч чэмпіянату свету па футболе 1986 года, на якім Дыега Марадона стаў аўтарам гола, які назвалі «рука Бога».
9. У вялікай колькасці, у значнай ступені.
10. Частка вяроўкі, шнура, ніткі, складзеная кольцам і завязаная так, што канцы яе можна зацягнуць.
11. Рад гарызантальна размешчаных прадметаў адзін над другім.
12. Адбіццё гукавога сігналу ці радыёімпульсу ад пэўнай перашкоды.
15. Які страціў разважлівасць, цвярозы розум.
17. Рад аднародных прадметаў ці жывых істот, якія размяшчаюцца або рухаюцца адно за адным.
19. Садова-ягаднае дрэва сямейства ружакветных з чырвонымі, жоўтымі ці амаль чорнымі костачкавымі пладамі.
21. Насякомае сямейства пчаліных з тоўстым, укрытым густымі валаскамі целам.
22. Падарожжа па кругавым маршруце.
23. Жорсткае прымяненне сілы да каго-небудзь з мэтай пакарання або прымусу.
25. Правільная, наладжаная сістэма размяшчэння чаго-небудзь; належны стан чаго-небудзь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Двор каля хаты, дома.
2. Мяжа паміж асветленай Сонцам і цёмнай часткамі нябеснага цела.
4. Пасудзіна асобай будовы, якая засцерагае, змешчанае ў ёй, ад астывання або награвання.
6. Адсутнасць бруду.
8. Карыбскае мора выдае своеасаблівы гук, частата якога не чуваць чалавеку. Але гук настолькі моцны, што ўплывае на гравітацыю планеты. З'ява цыклічная, узнікае праз кожныя 120 дзён. Як апісваюць гэты гук?
13. Мяркуецца, што мянушку "кароль-сонца" Людовік 14 атрымаў таму, што пры яго кіраўніцтве ў Парыжы пачалі працаваць яны.
14. Сукупнасць сродкаў чалавечай дзейнасці, якія ствараюцца для ажыццяўлення працэсаў вытворчасці і абслугоўвання невытворчых патрэбнасцяў грамадства.
15. Майстар па шыцці і рамонце абутку.
16. Пасудзіна цыліндрычнай формы, без ручкі, прызначаная для піцца.
18. Шырокая папулярнасць, слава.
20. Карная мера, пакаранне з боку дзяржаўных органаў.
22. Пералівістае дрыжачае гучанне, якое ўтвараецца хуткім чаргаваннем двух суседніх тонаў.
24. Запас чаго-небудзь на ўсякі выпадак.

## Адказы на крыжаванку з №8

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Апора. 4. Зносіны. 5. Анёл. 8. Знямога. 9. Далоні. 10. Вышук. 11. Драздовіч. 12. Макарона. 14. Трагізм. 15. Мадэратар. 16. Даведка. 17. Табель. 21. Антураж. 23. Магніт. 24. Змова.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Аптэка. 3. Таран. 5. Амфібія. 6. Зорка. 7. Дзежка. 8. Заслона. 10. Веранда. 11. Дыскатэка. 13. Волас. 14. Торба. 18. Выява. 19. Манарх. 20. Муляж. 22. Тыдзень.

## ГАРАСКОП НА 26 ЛЮТАГА – 4 САКАВІКА


**АВЕН.** Прыйдзецца папрацаваць, каб дасягнуць патрэбнага выніку. Уся справа ў тым, што вы ставіце перад сабой высокія мэты, а яны не даюцца проста так. На шляху ўзнікаюць перашкоды. Адны вы пераадольваеце лёгка, з іншымі спраўляецеся не з першай спробы.


**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакае займальны і запамінальны дзень. Ёсць шанец праявіць сябе. Сумаваць няма калі: раз-пораз з'яўляюцца нейкія цікавыя задачы, на вырашэнні якіх хочацца засяродзіцца.


**БЛІЗНЯТЫ.** Перыяд складзецца ўдала, калі вы правільна ацэніце сілы і не будзеце спрабаваць дамагчыся немагчымага. Падумайце, хто мог бы дапамагчы вам у дасягненні важных мэт. Падтрымка саюзнікаў лішняй не будзе. Людзі, якім вы калісьці дапамаглі, напэўна, захочуць адказаць паслугай.


**РАК.** Вы настойлівыя, і часта менавіта таму дамагаецеся поспеху. Аднак справы забіраюць шмат сіл, часам з-за стомы псуецца настрой. Старайцеся рабіць невялікія паўзы, каб аднавіць сілы.


**ЛЕЎ.** Можна вырашаць бытавыя пытанні: тут вы выдатна справіцеся. Верагодныя ўдалыя пакупкі, вы будзеце набываць выключна карысныя рэчы. Не выключаныя рознагалоссі з блізкімі.


**ДЗЕВА.** Спраў шмат, ахвотных дапамагчы значна менш, да таго ж вы далёка не з усімі гатовы дзяліцца сваімі клопатамі. Што ж, не марнуйце час дарма, пачынайце дзейнічаць як мага раней.


**ШАЛІ.** З'явіцца шмат новых ідэй. Усе яны здаюцца выдатнымі, годнымі неадкладнага ўвасаблення ў жыццё. Але варта ацаніць свае задумы крытычна, пастарацца знайсці іх слабыя месцы. Гэта дазволіць зэканоміць нямала сіл.


**СКАРПІЁН.** Вы ўсім пакажаце, на што здольныя. Прыемна здзівяцца нават тыя, хто даўно вас ведае. Зоркі асабліва добразычлівыя да закаханых, абяцаюць ім шмат прыемных эмоцый і рамантычных момантаў.


**СТРАЛЕЦ.** Прыдатны час для таго, каб абдумаць планы на будучыню. Магчыма, вы зразумееце, што пара скарэктаваць іх, па-іншаму расставіць прыярытэты або проста цяпер узяцца за тое, што доўга адкладвалася.


**КАЗЯРОГ.** Сітуацыя неўзабаве зменіцца да лепшага, а калі вы самі праявіце ініцыятыву, пастараецеся чымсьці парадаваць сябе, то настрой палепшыцца хутка. Можна ўзяцца за нешта новае, але лепш не спяшацца.


**ВАДАЛЕЙ.** Будзе не так проста вырашыць, што на самой справе важна, а што толькі ўяўляецца такім. Не спяшаецеся нервавацца; дайце сабе час разабрацца ў сітуацыі. Час многае расстаўляе па месцах, і трэба проста набрацца цярпення.


**РЫБЫ.** Гэта не самы просты перыяд, асабліва для тых, хто запланаваў важныя справы. Можна справіцца з сітуацыяй і дамагчыся пастаўленых мэт. У гэтым часта дапамагаюць праверaныя саюзнікі і даўнія сябры.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 1 | | 2 | 8 | | | | |
| 6 | | 5 | | | 3 | 4 | 2 | |
| | | 2 | | 7 | 4 | | 1 | |
| | | | 6 | 1 | 8 | | | |
| 8 | | 3 | | | 9 | | | |
| | | | 3 | 5 | | 7 | | 8 |
| 5 | | | | | | | 9 | |
| | | | 4 | | | | 7 | |
| | | 6 | 9 | | 5 | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



# Сям'я заўважыла акальцаванага лебедзя на Віліі

## Магчыма, гэта зацікавіць арнітолагаў

ВІЛЕЙКА

**Віляйчук Дзяніс Канецкі ў мінулыя выхадныя гуляў з сям'ёй па Ніжнім парку. Там заўважыў акальцаванага лебедзя і змог сфатаграфаваць кольца на лапе птушкі. Магчыма, лебедзь зацікавіць арнітолагаў.**




Фота забяспечанае Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Акальцаваная лапа лебедзя.

– Ходзім з сям'ёй у Ніжні парк карміць лебедзяў. Тут іх вельмі шмат, можна ўбачыць сотню. А з кольцам я заўважыў толькі аднаго. Пісаў на сайты арнітолагаў, але адказу пакуль няма. Магчыма, праз «Рэгіянальную газету» атрымаецца зафіксаваць лебедзя, – падзяліўся з карэспандэнтам Дзяніс.

Дарэчы, калі вы, як сям'я з Вілейкі, корміце лебедзяў зімой, эколагі раяць выкарыстоўваць аўсяныя шматкі, ячмень, авёс, кукурузу, вараную бульбу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **На Вілейшчыне, побач з Куранцам, ёсць маленькая вёсачка Багданава. Ад 17 стагоддзя яна была вядомая як панскі маёнтак, ад канца 1940-х – як месца, дзе арганізавалі дзіцячы дом для сірот, чые бацькі загінулі падчас Другой сусветнай, а пазней – дом-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі разумовай дзейнасці. Чым жылі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя выхаванцы і педагогі дзіцячага дома ў сядзібна-паркавым ансамблі, чытайце ў наступным нумары.**

## 27 лютага, субота

**Вецер:** заходні, 6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -23,3°С у 2018 годзе
Максімальная тэмпература +9,1°С у 1989 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,5 мм у 2002 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

# Як святкуеце 23 лютага і 8 Сакавіка?



**Вольга, Маладзечна:**
– Дома святкуем. Робім дамашні торцік, вячэру для сваёй сям'і.



**Ганна, Маладзечна:**
– Восьмага сакавіка абавязкова адзначаем, а мужчын мы віншуем проста.



**Таццяна, Маладзечна:**
– 23 лютага і 8 Сакавіка сумяшчаем. Бо ў гэтым раз 23-га – працоўны дзень быў. А вось 8 Сакавіка выхадны. Там і адпачнём ад душы.



**Тамара, Вілейка:**
– Не люблю святы, але прыходзіцца святкаваць, таму што іх любіць муж.



**Ірына, Маладзечна:**
– 23 лютага з раніцы віншую мужа пацалункам, дару падарунак, загадзя даведваюся, што ён хоча, і раблю святочны абед. А на 8 Сакавіка муж дорыць любімую мімозу і падарунак. Святкуем з шампанскім, цукеркамі, святочным сталом. Ужо 22 гады так, заўсёды душэўна і з любоўю.



**Наталля, Вілейка:**
– 23 лютага святкуем, як хоча муж. А 8 Сакавіка – як хачу я.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№9 (1348) 26.02.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 329. Падпісана ў друк у 9.00 25.02.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.